# РАДЫЁВУХА №14-15

Бюлетэнь слухачоў Беларускай рэдакцыі радыё «Палонія»

DX-zprávy DX-новости DX-news **DX-НАВІНЫ** DX-wiadomości DX-новини DX-noviny

■ Радыёстанцыя "Нямецкая хваля" будзе перадаваць ўзімку выпускі на ангельскай мове з 6.00 да 19.00 на частаце 6140 кГц, з 20.00 да 20.45 на частаце 9725 кГц. На 7285 і 9765 кГц вяшчанне будзе весціся з 02.00 да 02.45, а на 15380 ды 17810 кГц - з 16.00 да 16.45.

Нямецкамоўныя праграмы можна будзе прымаць у сярэднехвалёвым дыяпазоне на частотах 693 і 1188 кілагерц у наступныя часавыя прамежкі: 03.00 - 04.00, 05.00 - 06.00, 06.00 - 15.00, 21.00 - 23.00. На КХ "Нямецкую хвалю" можна будзе злавіць з 04.00 да 05.55 на 6075 кГц, з 06.00 да 17.56 - на 13780, з 06 .00 да 10.00 - на 11865, з 08.00 да 10.00 - на 25740, з 10.00 да 14.00 - на 17845 і 25740. З 12.00 да 14.00 стане весціся перадача на частаце 17650 кілагерц. Начныя праграмы будуць трансляванцца з 22.00 на 6075 кілагерц (да 04.00) і на 3995 кілагерц (да 06.00).

Першая перадача "Нямецкай хвалі" на рускай мове з'явіцца ў эфіры з 00.00 да 01.00 на частотах 6035 і 7285 кГц. Наступныя гадзінныя праграмы прагучаць а 04.00 на 693, 1188, 6055 ды 7235 кілагерцаў, а таксама а 05.30 на 7155 і 9775 кГц. Увечары вяшчанне на рускай мове адновіцца ў 15.00 на некалькіх частотах: 693, 1188, 5980, 7145, 9715. Яно будзе працягвацца да 21.00.

Час пазначаны паводле Грынвіча.

***Юрась Сцяпанаў.***

■ Радыё "Балгарыя" будзе трансляваць свае рускамоўныя праграмы паводле наступнага раскладу: 00.00 - 01.00 UTC на 7500 кілагерц, 03.00 - 04.00 на частотах 5900 ды 7500 кГц, 15.00 - 16.00 на 1224, 7500, 9900 і 11900 кілагерц, 18.00 - 19.00 на частотах 7500 ды 9900 кГц.

***Аляксандр Маныкін.***

■ Міжнароднае радыё Кітая вяшчае на польскай мове два разы штодня. Першая перадача гучыць а 20.00 паводле Грынвіча на частотах 6150, 9585, 11775 кГц. Паўтор гэтай праграмы транслюецца ў 20.30 на 7110 і 9585 кГц.

***Юрась Сцяпанаў.***




■ Украінская рэдакцыя радыё "Бі-бі-сі" будзе трансляваць з 29 кастрычніка бягучага года свае праграмы ад панядзелка да пятніцы з 04.00 да 05.00 UTC на частотах 612, 7260, 9760 і 11770 кілагерцаў. Штодня станцыя стане весці паўгадзінныя перадачы на Украіну а 14.00 на 612, 11845, 13680 і 15595 кГц ды а 16.00 на 612, 9535, 11985 і 13650 кГц.

***Румен Панкоў.***

■ Шасцідзесяціхвілінныя рускамоўныя перадачы Міжнароднага радыё Карэі можна прымаць на Далёкім Усходзе і ў Сібіры з 29 кастрычніка а 11.00 UTC на частотах 1170, 5975, 6135 ды 7275 кГц і а 16.00 UTC частаце 15575 кГц. У Еўропе рэтрансляцыя праграмы з Сеула будзе чутна ў 19.00 на 7105 кілагерцаў.

***Юрась Сцяпанаў.***

DX-wiadomości DX-навіны DX-news DX-новини DX-nyheter DX-noticias DX-Nachrichten

Бюро DX-даведак

Выказваем шчырую ўдзячнасць Рускай рэдакцыі радыё "Палонія", службе кантролю радыёстанцыі "Нямецкая хваля", Беларускай рэдакцыі Трансусветнага радыё, варшаўскаму Фонду "Oświata Polska za Granicą" і беларускай грамадскай арганізацыі "Polska Macierz Szkolna", DX-істам Аляксандру Варывончыку, Уладзіміру Гудзэнку, Зміцеру Канапацкаму, Алесю Місніку, Сяргею Магонаву і Румену Панкову за высланыя матэрыялы, якія дапамаглі стварыць гэты ды папярэднія нумары выдання "Радыёвуха".

*Рэдакцыя бюлетэня*

## Адрасы радыёстанцый:

**Радыё "Голас Інданезіі":**
The Voice of Indonesia, P. O. Box 1157, Jakarta 10001, Indonesia.

**Новазеландскае міжнароднае радыё:**
Radio New Zealand International, P. O. Box 123, Wellington, New Zealand.

**Праграма вяшчання Транссусветнага радыё**
**на рускай, украінскай ды беларускай мовах**
**з 29 кастрычніка 2000 года да 24 сакавіка 2001 года ў дыяпазонах СХ і КХ**

| Часто-ты ў кГц | Размяшчэнне перадатчыка | Час (UTC) | Панядзелак | Аўторак | Серада | Чацвер | Пятніца | Субота | Нядзеля |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 11635, 9495 | Албанія | 15.00 - 15.15 | | Дзіцячы куток (руская мова) | Дзіцячы куток (руская мова) | Дзіцячы куток (руская мова) | Дзіцячы куток (руская мова) | Дзіцячы куток (руская мова) | Вяртанне да Бога (руская мова) |
| | | 15.15 - 15.45 | | Спакойныя воды (руская мова) | Пытанні веры (руская мова) | Паштовая скрынка (руская мова) | Маяк надзеі (руская мова) | Компас (руская мова) | |
| | | 15.45 - 16.15 | Біблейскія лекцыі (руская мова) | Біблейскія лекцыі (руская мова) | Біблейскія лекцыі (руская мова) | Біблейскія лекцыі (руская мова) | Біблейскія лекцыі (руская мова) | Шалом (руская мова) * 15 хв. | |
| 999 | Малдова | 17.30 - 18.00 | Біблейскія лекцыі (украінская мова) | Біблейскія лекцыі (украінская мова) | Біблейскія лекцыі (украінская мова) | Біблейскія лекцыі (украінская мова) | Біблейскія лекцыі (украінская мова) | Нябесны сябар (украінская мова) | Сцяжынка (украінская мова) |
| | | | | | | | | Пераходны ўзрост (руская мова) | Арыентыр (руская мова) |
| 9845, 7335 | Албанія | 15.00 - 15.15 | | Дзіцячы куток (руская мова) | Дзіцячы куток (руская мова) | Дзіцячы куток (руская мова) | Дзіцячы куток (руская мова) | Дзіцячы куток (руская мова) | Слова на сёння (руская мова) |
| | | 15.15 - 15.45 | Голас друга (беларуская мова) | Спакойныя воды (руская мова) | Пытанні веры (руская мова) | Паштовая скрынка (руская мова) | Маяк надзеі (руская мова) | Компас (руская мова) | Пошукі і адкрыцці (руская мова) |
| | | | | | | | | | Голас евангель-скай весткі (руская мова) |
| 999 | Малдова | 20.00 - 20.30 | Голас друга (беларуская мова) | Компас (руская мова) | Жыццё, як яно ёсць (руская мова) | Калейда-скоп (украінская мова) | Слова на сёння (руская мова) | Шалом (руская мова) | Маяк надзеі (руская мова) |
| | | | | | | | Суламіта (руская мова) | Чалавек і вечнасць (украінская мова) | |



# Беларускамоўныя радыё-перадачы з Ватыкана на новых частотах

Ватыканскае радыё з 29 кастрычніка змяняе сваё частоты ў кароткахвалёвым эфіры. Беларускамоўныя перадачы будуць трансляваацца з 18.00 да 18.20 UTC на 7365 і 9585 кГц. У гэты ж час у Заходняй Еўропе па-ранейшаму можна прымаць праграмы Ватыкана па-беларуску ў дыяпазоне сярэдніх хваляў на частаце 1611 кГц. Раніцай наступнага дня а 4.20 паводле Грынвіча мажліва будзе злавіць паўтор вечаровага выпуска на 6185 ды 7345 кГц.

*Юрась Сцяпанаў.*

# Міні-конкурс

Беларуская рэдакцыя радыё "Палонія" штотыдзень транслюе пастаянную рэлігійную перадачу. Адкажыце, калі ласка, на тры пытанні пра гэтую праграму. Прысылайце сваё адказы на нашую міні-віктарыну да 31 снежня 2000 года. Тыя, хто без праблем справяцца з усімі конкурснымі пытаннямі, атрымаюць невялікія ўзнагароды. Жадаем поспехаў!

**Пытанні віктарыны:**

1. *Уякі дзень тыдня транслюецца ў кароткахвалёвым дыяпазоне пастаянная рэлігійная гутарка Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія"?*
2. *Хто вядзе гэтую рубрыку на хвалях Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія"?*
3. *Да якой канфесіі належыць вядучы пастаяннай рэлігійнай перадачы?*

Бюро DX-даведак

## Адрасы «галасоў»:

**Польская рэдакцыя Транссусветнага радыё:**
"Impuls" Trans World Radio, ul. Kłodnicka 2, 54-217 Wrocław, Poland.

**Расклад зімовага вяшчання Сямейнага радыё на рускай мове**

| Час паводле UTC | Частоты ў кГц |
|---|---|
| 03.00 - 04.00 | 7355, 9905 |
| 04.00 - 05.00 | 7355 |
| 15.05 - 17.05 | 9955 |
| 17.00 - 18.00 | 17760, 21725 |

## DX-zprávy DX-новости DX-news DX-НАВІНЫ DX-wiadomości DX-новини DX-noviny




■ Інтэррадыё "Румынія" на рускай мове ў зімовы перыяд будзе вяшчаць а 13.00 на 11810, 15250, 15315 кГц, а 15.00 на 11735, 15365 кГц і а 19.00 на 5965, 7155, 9550 кГц. Час пададзены паводле UTC.

*Аляксандр Варывончык.*

■ У новым вяшчальным сезоне Міжнароднае канадскае радыё па-ранейшаму будзе працаваць на рускай мове тры разы штодня. Першая трансляцыя пачнецца а 16 гадзіне паводле Грынвіча на частотах 9555, 11935 і 13650 кілагерц. Наступная перадача будзе весціся ў 18.00 7235 ды 11915 кГц. Апошні выпуск можна будзе злавіць а 22 гадз. на частотах 9680 і 7385 кілагерц.

RCI

Украінская рэдакцыя МКР працягне выходзіць у эфір двойчы ў суткі. А 17.00 (UTC) ейная праграма будзе трансляваацца на 9555, 11935 ды 13650 кГц. Паўтор гэтай перадачы прагучыць у 19 гадзін на 7235 і 9805 кілагерцаў.

І яшчэ адна інфармацыя пра Міжнароднае канадскае радыё. Станцыя распачала рассылку на e-mail штодзённага бясплатнага "Электроннага часопіса". Ён складаецца з асноўных канадскіх ды міжнародных навін. Каб даведацца пра ўмовы падпіскі на інфармацыйны бюлетэнь, трэба зазірнуць на веб-сайт МКР: *http://www.rcinet.ca*

*Юрась Сцяпанаў.*




**Рускі аддзел Міжнароднага канадскага радыё: Марк Рыжык, Георгі Бароўскі, Валерыя Рыжская, Юрый Багалепаў, Мая Камінская, Яўген Сакалоў, Андрэй Логінаў.**

DX-zprávy DX-wiadomości DX-noviny DX-новости DX-новини DX-wiadomości
DX-wiadomości DX-noviny DX-новости DX-новини DX-wiadomości DX-noviny
DX-wiadomości DX-навіны DX-news DX-новини DX-nyheter DX-noticias DX-Nachrichten

## QSL-галерэя




*QSL-картка радыё "Палонія".*

### Зімовы расклад вяшчання на эсперанта радыё "Палонія" на КХ

| п/п | Час (UTC) | Частоты в кГц | Працягласць праграмы |
|---|---|---|---|
| 1. | 14.30 | 7275, 7285 | 25 хвілін |
| 2. | 15.00 | 7130 | 25 хвілін |

### Колькасць рапартаў, якія прысланы на радыё "Палонія" ў 1999 годзе

| п/п | Рэдакцыя | Колькасць рапартаў |
|---|---|---|
| 1. | Нямецкая служба | 3983 |
| 2. | Вяшчанне на эсперанта | 2448 |
| 3. | Беларуская рэдакцыя | 1126 |
| 4. | Ангельская рэдакцыя | 713 |
| 5. | Чэшская і славацкая служба | 427 |
| 6. | Руская рэдакцыя | 321 |
| 7. | Украінская секцыя | 158 |
| 8. | Польская рэдакцыя | 76 |
| 9. | Літоўская рэдакцыя | 5 |
| | Разам | 9257 |

### Колькасць рапартаў, якія атрымала радыё "Палонія" ў I квартале 2000 года




### Колькасць лістоў, якія атрымала радыё "Палонія" ў I квартале 2000 года




### *Расклад зімовага вяшчання Літоўскай рэдакцыі радыё "Палонія" на КХ*

| Час (UTC) | Частоты ў кГц | Працягласць праграмы |
|---|---|---|
| 14.00 | 6035, 6095 | 25 хвілін |
| 16.00 | 6035, 7180 | 25 хвілін |

*Хочаш аператыўна перадаць віншаванні ці прывітанні ў рубрыцы "Канцэрт віншаванняў" Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія"? Прысылай заяўкі на адрас Клуба слухачоў: а/с 18, г. Віцебск, 210015.*

**Заяўка ў "Канцэрт віншаванняў" Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія"**

Прашу на хвалях Беларускае рэдакцыі радыё "Палонія" перадаць віншаванні/прывітанні (імя, прозвішча, вуліца, нумары дома і кватэры, горад, паштовы індэкс):

______________________________

______________________________

Прапанаваны тэкст віншаванняў/прывітанняў:

______________________________

______________________________

______________________________

______________________________

Калі перадаць віншаванні/прывітанні (дата): ______

Хто перадае віншаванні/прывітанні (імя, прозвішча, вуліца, нумары дома і кватэры, горад, паштовы індэкс):

______________________________

______________________________

Колькасць патрэбных бланкаў заявак ___ ды інфармацыйных лістовак з раскладам перадачаў Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія" для раздачы сярод знаёмых ___ .

Дакладныя каардынаты адрасатаў віншаванняў і тых, хто віншуе, патрэбныя дзеля лёсавання невялікіх узнагародаў, якое праводзіцца раз на тры месяцы сярод усіх жадаючых прыняць удзел у "Канцэрце віншаванняў".

Просьба пісаць выразна.



## Зімовы расклад праграм радыё “Палонія” на чэшскай і славацкай мовах у дыяпазоне кароткіх хваляў

| *Дзень тыдня* | *Мова вяшчання* | *Час перадачы UTC* | *Частоты ў кГц* | *Працягласць* |
|---|---|---|---|---|
| Панядзелак | Славацкая | 11.00 | 5965, 7285 | 25 хвілін |
| | Чэшская | 17.00 | 6095, 7215 | 25 хвілін |
| Аўторак | Чэшская | 11.00 | 5965, 7285 | 25 хвілін |
| | | 17.00 | 6095, 7215 | 25 хвілін |
| Серада | Чэшская | 11.00 | 5965, 7285 | 25 хвілін |
| | | 17.00 | 6095, 7215 | 25 хвілін |
| Чацвер | Чэшская | 11.00 | 5965, 7285 | 25 хвілін |
| | | 17.00 | 6095, 7215 | 25 хвілін |
| Пятніца | Чэшская | 11.00 | 5965, 7285 | 25 хвілін |
| | | 17.00 | 6095, 7215 | 25 хвілін |
| Субота | Чэшская | 11.00 | 5965, 7285 | 25 хвілін |
| | | 17.00 | 6095, 7215 | 25 хвілін |
| Нядзеля | Чэшская | 11.00 | 5965, 7285 | 25 хвілін |
| | Славацкая | 17.00 | 6095, 7215 | 25 хвілін |

# Навіны Чэшскай рэдакцыі ў Інтэрнэце

Радыё "Палонія" паступова пашырае сваю прысутнасць у Сусветнай павуціне.

З нядаўняга часу Чэшская інфармацыйная служба атрымала магчымасць змяшчаць на web-старонцы радыёстанцыі зводку навінаў. Яны штодня абнаўляюцца. Выпуск паведамленняў можна знайсці па адрасе:

<*http://www.radio.com.pl/polonia/czeska_news_ch.asp*>.

Між іншым, чэшскамоўныя слухачы ў кантактах з радыё "Палонія" ўсё часцей аддаюць перавагу менавіта Інтэрнэту.

**Юрась Сцяпанаў.**




### Расклад зімняга вяшчання Польскай рэдакцыі радыё “Палонія” на ДХ і КХ

| *Час UTC* | *Дыяпазон* | *Частоты ў кГц* | *Працягласць трансляцыі* |
|---|---|---|---|
| **03.05** | Доўгія хвалі | 225 | 50 мінут |
| **11.30** | Кароткія хвалі | 5995, 7285 | 25 мінут |
| **12.00** | | 7270, 7285 | 25 мінут |
| **16.30** | | 6035, 7285 | 55 мінут |
| **22.00** | | 6035, 6095, 7280 | 55 мінут |

### *Расклад зімовага вяшчання Беларускай рэдакцыі радыё «Палонія» на кароткіх хвалях*

| № | ЧАС ПЕРАДАЧЫ ПАВОДЛЕ UTC | ЧАСТОТЫ | ДЫЯПАЗОНЫ | ПРАЦЯГЛАСЦЬ ВЯШЧАННЯ |
|---|---|---|---|---|
| 1. | 12.30 | 7285 кГц<br>5995 кГц | 41,18 м<br>50,04 м | 25 хвілін |
| 2. | 14.30 | 6035 кГц<br>5995 кГц | 49,71 м<br>50,04 м | 55 хвілін |
| 3. | 17.30 | 7285 кГц<br>5995 кГц | 41,18 м<br>50,00 м | 25 хвілін |
| 4. | 18.00 | 7270 кГц<br>6035 кГц | 41,27 м<br>49,71 м | 55 хвілін |
| 5. | 21.30 | 7340 кГц<br>6035 кГц | 40,87 м<br>49,71 м | 25 хвілін |

***Напісаць на Беларускую рэдакцыю радыё “Палонія” можна па адрасах:*** **Redakcja Białoruska Radia Polonia, skr. poczt. 46, 00-977 Warszawa, Polska/Польшча** ***або*** **Беларуская секцыя радыё “Палонія”, а/с 5, г. Віцебск, 210038, Беларусь.**

***Пазваніць з Беларусі на Беларускую рэдакцыю радыё “Палонія” можна па наступных нумарах:***

**(8-10)(4822)6459366**

**ды (8-10)(4822)6459367.**

## Беларуская рэдакцыя радыё “Палонія” ў Інтэрнэце па адрасе: HTTP://RADYJO.8M.COM

DX-інг па-польску

# Regularnie odbieram

Сёння мы завяршаем знаёмства з асноўнай тэрміналогіяй, якая, магчыма, прыдасца вам падчас напісання справаздачы аб якасці прыёму. Пагаворым пра словы, што часта ўжываюцца пры складанні рапартаў.

Пачнем з элементаў перадачы, якія ствараюць змест праграмы, або па-польску **treść programu** [трэшьчь програму]:

**Wiadomości** [вядомошьчі] навіны, інфармацыйны выпуск.
**Prognoza pogody** [прогноза погоды] прагноз надвор'я.
**Komentarz dnia** [комэнташ дня] актуальны каментар.
**Przegląd prasy** [пшэглё"т прасы] агляд прэсы.
**Przegląd wydarzeń międzynarodowych** [пшэглё"т выдажэнь ме"дзынародовых] агляд міжнародных падзей.
**"Magazyn gospodarczy"** [магазын господарчы] "Эканамічны часопіс".
**Wywiad** [вывят] інтэрв'ю.
**Audycja religijna** [аўдыц'я рэлігійна] рэлігійная перадача.
**"Aktualności kulturalne"** [актуальношьчі культуральнэ] "Навіны культуры".
**Audycja sportowa** [аўдыц'я спортова] спартыўная перадача.
**Program muzyczny** [програм музычны] музычная праграма.
**"Koncert życzeń"** [концэрт жычэнь] "Канцэрт віншаванняў" (даслоўна: "Канцэрт пажаданняў").
**"Skrzynka listów"** [скшынка лістуф] "Паштовая скрынка", агляд пошты.

Для замацавання ведаў па пройдзеным матэрыяле, мы прапануем вам, дарагія чытачы, самім паспрабаваць скласці рапарт аб прыёме польскамоўнага вяшчання нейкай краіны і даслаць яго на адрас адпаведнай станцыі.

Калі вы рашыцеся зрабіць справаздачу аб чутнасці Польскае рэдакцыі радыё "Палонія", то можаце смела прысылаць свой рапарт на адрас нашага бюлетэня. Мы перашлём яго ў Варшаву.

**Raport o słyszalności**

**Radio** ____________________

| Data | Czas UTC | kHz | S | I | N | P | O | Uwagi techniczne |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | |

**Treść:**

| **Odbiornik/antena:** | **Uwagi ogólne:** |
|---|---|
| | |

**Imię i nazwisko** ____________________
**Adres** ____________________




*QSL радыё "Швецыя".*




*QSL-картка "Нямецкай хвалі".*




*QSL Транссусветнага радыё.*



*QSL-паведамленне радыё "Пхеньян".*

**Шаноўныя DX-істы!**

У нашай галерыі мы змясцілі невялічкую выставу QSL-картак. Далейшае існаванне гэтай рубрыкі залежыць ад вашае актыўнасці. Калі ласка, прысылайце новыя падцверджанні аб прыёме. Мы іх пастараемся аператыўна апублікаваць. Заўчасна ўдзячныя!

***Рэдакцыя бюлетэня.***



**Талон на атрыманне бюлетэня «Радыёвуха»**

Імя, прозвішча ____________________

Адрас (з індэксам) ____________________

____________________

Тэлефон ____________ Подпіс ____________ 

***Прывітанне, Юрась!***

Дзякуй за дасланы № 11-12 "Радыёвуха". Трэба адзначыць, што бюлетэнь робіцца з кожным выпускам ўсё цікавейшым.

Дарэчы, ад радыё "Балтыйскія хвалі" ўчора атрымаў QSL-картку за рапарт ад 20 чэрвеня. Пісьмо з Вільні ў Кобрын дайшло за 3 дні! Яшчэ я атрымаў (з восьмага раза!) QSL і персанальны ліст ад Міжнароднага радыё Малдовы, расклад якога дасылаю ў "Радыёвуха".

А якая QSL-палітыка ў радыё "Рацыя"?

Ну вось, я буду развітвацца. Усяго найлепшага. 73!

***Сяргей Магонаў, Кобрын, Берасцейская вобласць.***

***Прывітанне, Юрась!***

Пішу вам упершыню. Я радыёаматар з Магілёва. Мяне завуць Аляксандр Варывончык.

Маю вялікае жаданне атрымліваць нумары "Радыёвуха". Некалькі бюлетэняў я ўжо трымаў у сваіх руках і яны мне вельмі спадабаліся.

Вядома буду дапамагаць вам усім, чым магчыма.

З найлепшымі пажаданнямі,

***Аляксандр Варывончык, Магілёў.***

***Паважаны Юрась!***

Дзякуй за чарговы нумар "Радыёвуха". Як інфармацыйная, так і паліграфічная якасць бюлетэня расце літаральна на вачах. Мне спадабалася ваша новая рубрыка "QSL-галерэя". Спадзяюся, яна і надалей захаваецца.

Вельмі спадабалася навіна, што ў гэтым зімнім сезоне радыё "Прага" распачынае, нарэшце, вяшчанне па-руску. А пакуль што гэтую радыёстанцыю я слухаю ў асноўным на нямецкай мове.

Я нарэшце атрымаў доўгачаканы прыз за ўдзел у дыскусіі Беларускай службы радыё "Палонія". Ён для мяне стаў поўнай нечаканасцю. Мне падарылі кішэнны радыёпрымач "Grundig YB 208". Пра нешта падобнае я нават і марыць не мог. Такую класную рэч я трымаю ў сваіх руках упершыню. Хаця на самым пачатку я нават крыху быў засмуціўся, ці будзе ён прыдатны для праслухоўвання кароткіх хваляў. Але ўключыўшы яго, вушам сваім не паверыў. Прыём на ўсіх дыяпазонах проста выдатны! Да таго ж я ўпершыню атрымаў магчымасць лавіць у дыяпазонах 60 і 13 метраў.

Жадаю поспехаў! 73!

З павагай,

***Зміцер Канапацкі, Берасцейская вобласць.***

## Расклад вяшчання радыё "Свабода" на зімовы час

| Сусветны час | Частоты | Дыяпазоны |
|---|---|---|
| 4.00 — 5.00 | 5995 кГц | 50,04 м |
| | 7295 кГц | 41,12 м |
| | 9750 кГц | 30,77 м |
| 16.00 — 17.30 | 7190 кГц | 41,72 м |
| | 9615 кГц | 31,20 м |
| | 15460 кГц | 19,40 м |
| 20.00 — 21.00 | 6010 кГц | 49,91 м |
| | 6170 кГц | 48,62 м |
| | 9845 кГц | 30,47 м |

**Радыё "Свабода" можна прымаць таксама на сярэдніх хвалях 576 ды 612 кГц.**




Назіральнік «European FM Handbook» і аматар УКХ-статыстыкі шукае кантактаў дзеля ўдакладнення частотаў радыёстанцый, што вяшчаюць у розных кутках Беларусі.

**Адрас: Алесь Міснік, вул. Чырвонасцяжная, д. 27, г. Барысаў, 220120, Менская вобласць.**
**Тэлефон: (8-01777)6-33-21.**




www.radiozet.com.pl

**РАДЫЁВУХА**

**Выходзіць штомесяц. № 14-15, верасень-кастрычнік 2000 года.**
**Бюлетэнь адлюстроўвае прынцыпы дзейнасці радыё ў дэмакратычным грамадстве, працу Польскага радыё, дзейнасць Клуба слухачоў Беларускай рэдакцыі радыё "Палонія", падае інфармацыю пра беларускамоўныя станцыі ў свеце, расказвае аб DX-руху ў Беларусі.**

Адрас: "Радыёвуха", а/с 18, г. Віцебск, 210015, Беларусь.
Тэл.: 33 49 21.
Галоўны рэдактар: Юрась Сцяпанаў.
Набор: Юрась Сцяпанаў, Надзея Сцяпанава.
Дапамога: Зміцер Канапацкі, Алесь Міснік, Надзея Сцяпанава.

Вёрстка: Сяржук Серабро (ЦМІ «Контур»).
Надрукавана Віцебскім аддзяленнем Фонду імя Льва Сапегі.
**Выдавец: Цэнтр моладзевых ініцыятыў "Контур".**
**Пры падтрымцы USIS.**
Наклад 150 паасобнікаў. На правах рукапісу.